**СОНЦА:**
Мінск — 8.27, 16.02, 7.35;
Віцебск — 8.24, 15.45, 7.21;
Магілёў — 8.16, 15.52, 7.36;
Гомель — 8.08, 15.57, 7.52;
Гродна — 8.40, 16.14, 7.39;
Брэст — 8.33, 16.28, 7.55.

**МЕСЯЦ:**
МАЛАДЗІК 5 СТУДЗЕНЯ.

**ІМЯНІНЫ:**
Паўла, Ніфанта, Феакціста, Эдуарда, Шымана.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

5 СТУДЗЕНЯ 1992 г.
нядзеля, № 3 (21781)

## РозГАЛАС

### «НАС МАЛА. ПАКУЛЬ...»

**На Віцебшчыне ў канцы мінулага года налічвалася каля 180 фермерскіх гаспадарак.**

Згадзіцеся, для такой вялікай вобласці гэта мала. Але няхай і з вялікімі цяжкасцямі прадпрымальныя сяляне ўсё больш настойліва прабіваюць сабе дарогу, імкнучыся асесці на зямлі трывала, навечна. Так, у мінулым годзе фермер Віктар Глушын з вёскі Узрэчча Глыбоцкага раёна для вядзення сялянскай гаспадаркі ўзяў у калгасе «Перамога» ў сваю ўласнасць 6 гектараў зямлі. Пасадзіў бульбу, пасеяў лён. Ураджай атрымаў нядрэнны. Фермер прадаў больш трох тон ільнотрасты (сярэдняя ўраджайнасць — 8,2 цэнтнера валакна з гектара). Дадаткова Віктар рэалізаваў сем тон збожжа і чатыры — бульбы.

Яго мара, каб падобных гаспадарак стала ў вобласці як мага больш.

«Агенцтва РІД».

### ЦІХАЯ «ВАЙНА» КАМСАМОЛЬЦА ЛЫСЕНКІ

РЭЧЫЦА. Яна працягвалася паўтара года і толькі-толькі закончылася. А можа яшчэ і не. Бо, магчыма, першы сакратар гаркома камсамола С. Лысенка набіраецца сіл, каб узяць рэванш. У барацьбе з сельскімі бібліятэкарамі. Але аб усім па парадку.

У далёкія 50-я краязнаўчы музей горада над Дняпром расшыраў свае экспазіцыі, і цэнтральнай раённай бібліятэцы было прапанавана пераехаць у клуб кераміка-трубнага завода. 34 гады яна займае там другі паверх плошчай 120 квадратных метраў, і ўвесь гэты час яе работнікі вядуць вялікую культурна-асветніцкую работу сярод насельніцтва горада і раёна.

Дастаткова сказаць, што тут багаты кніжны фонд (амаль 60 тысяч кніг, якімі карыстаюцца тры тысячы чытачоў), дзейнічаюць клубы па інтарэсах, працуе літаратурна - прапагандысцкая група «Кругагляд». Раённая бібліятэка з'яўляецца метадычным цэнтрам для 60 сельскіх бібліятэк, была пераможцай рэспубліканскага конкурсу — агляду «Квітней, мой край беларускі».

І ніхто ніколі не думаў, што над гэтым ачагом культуры навісне рэальная пагроза закрыцця. І што ініцыятарам гэтай акцыі, як ні парадаксальна, выступіць гарком камсамола на чале з яго першым сакратаром. А пачыналася ўсё так.

У 1990 годзе кераміка-трубны завод вырашыў прадаць клуб з-за яго нерэнтабельнасці. Райвыканком звярнуўся ў гарвыканком з просьбай прадаць яго ўпраўленню культуры. Аднак, як кажуць, дарогу ім перабег гарком камсамола, які прыдбаў будынак для размяшчэння ў ім маладзёжнага цэнтра з камерцыйным ухілам — арганізацыяй бара, відэазалы і да т. п.

С. Лысенка адразу пайшоў у наступ на бібліятэку: высяляйцеся, гаспадары тут мы. Відавочна, у яго паняцці яна не з'яўляецца часткай культурнага маладзёжнага цэнтра, хоць сярод яе чытачоў налічваецца да паўтары тысячы камсамольцаў і моладзі. Не дапамагло і тое, што работнікі бібліятэкі растлумачылі Сяргею Іванавічу сваю ролю ў культурна-масавай рабоце сярод насельніцтва. Ён паставіў ультыматум загадчыцы раённага аддзела культуры Т. Елісеевай і намесніку старшыні райвыканкома П. Паўлянку вызваліць памяшканне, інакш бібліятэчны фонд будзе гвалтам вынесены з клуба.

На абарону бібліятэкі ўзнімаецца грамадскасць. Ляцяць пісьмы ад людзей у абласное ўпраўленне культуры, аблвыканком, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Аднак не спіць у шапку і С. Лысенка. Ён падае іскавую заяву ў Гомельскі дзяржарбітраж з просьбай аб прымусовым высяленні бібліятэкі. Арбітр Т. Падлеская адмаўляе істцу, прыводзячы важкія аргументы. Але Сяргей Іванавіч не супакойваецца і падключае да справы галоўнага дзяржарбітра вобласці В. Мірошнік, якая таксама прыходзіць да высновы, што ён не мае рацыі. С. Лысенка спрабуе знайсці ўправу на іх у вышэйшым гаспадарчым судзе рэспублікі. Ідуць праверкі, падымаюцца дакументы, робяцца запыты. І вось пастанова: дзяржарбітраж вобласці дзейнічаў на падставе закона.

Здаецца, работнікам бібліятэкі і грамадскасці можна радавацца. Але ім не да таго. Бо яны ведаюць характар С. Лысенкі, якога ўшчэнт адолеў азарт ціхай «вайны». Цікава, куды яшчэ будзе ён скардзіцца, працягваючы ганебную цяжбу з бібліятэкай. І няўжо ў праграмныя мэты рэчыцкага камсамола ўваходзіць разгром ачагоў культуры?

Уладзімір ПЕРНІКАЎ.

### КУРС ВАЛЮТЫ ЛІТОЎСКАГА БАНКА

Літоўскі банк скупляе і прадае асобам, чкія маюць дакументы для выезду за мяжу, СКВ па наступных цэнах і ў наступнай колькасці:

| Назва валюты | Цана куплі | Цана продажу | Норма продажу адной асобе |
|---|---|---|---|
| Долары ЗША | 120.00 | 129.00 | 300 |
| Маркі ФРГ | 78.40 | 83.90 | 460 |
| Аўстрыйскія шылінгі | 11.10 | 11.90 | 3.200 |
| Англійскія фунты стэрлінгаў | 220.00 | 235.40 | 160 |
| Французскія франкі | 23.00 | 24.60 | 1.600 |
| Шведскія кроны | 21.40 | 22.90 | 1.700 |
| Швейцарскія франкі | 88.50 | 94.70 | 410 |
| Нарвежскія кроны | 19.90 | 21.30 | 1.800 |
| Фінскія маркі | 24.70 | 26.40 | 1.200 |

(Балтыя—БЕЛТА).

### БЕЗ ШАМПАНСКАГА, ГАРЭЛКІ І ВІНА

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ **(У. Пернікаў).** Большасць з нас, сустракаючы навагодняе свята, іскрыстыя пырскі шампанскага бачылі толькі на экранах тэлевізараў. Бо ў магазінах гэты напітак днём з агнём нельга было знайсці, а ў рэстаранах і на «чорным» рынку цэны на яго былі куслівыя — ад 100 да 200 рублёў.

Ды што там шампанскае, калі хто-ніхто Новы год сустрэў наогул «сухама», не ўзняўшы за яго прыход нават чаркі гарэлкі ці віна. Напрыклад, пяці бутэлек гарэлкі пазбавілі трое зламыснікаў пенсіянера-гамяльчаніна В. Балюнова, калі той са спіртным крочыў з магазіна дадому. Яны штурхнулі яго з такой сілай, што ветэран трапіў у бальніцу з закрытым пераломам рабрыны. А ў жыхаркі вёскі Грабаўка Гомельскага раёна В. Кудзінай нехта, узламаўшы замок, залез у дом і забраў чатыры бутэлькі гарэлкі. Невядомыя пакрыўдзілі і стралка ваенізаванай аховы завода ліцця і нармалей М. Воранава. Праз незакрытую фортку ўлезлі ў яго кватэру і ўкралі 15 бутэлек гарэлкі і 2 — шампанскага.

Быў абрабаваны і начальнік рамонтна - механічнага цэха Жлобінскага ДБК В. Пеўнеў, з кватэры якога знікла 8 бутэлек гарэлкі, 2 — каньяка, 10 — марачнага віна, бутэлька шампанскага і 400 рублёў, на якія зламыснікі, відаць, набылі закусь. Не пашанцавала таксама жыхарам вёскі Ліствін Хойніцкага раёна, куды перад Новым годам завезлі спіртное. Ноччу нехта «канфіскаваў» з крамы сем скрынь віна «Анапа».

Міліцыя збілася з ног, каб устанавіць тых, хто не даў людзям адсвяткаваць Новы год па звыклай традыцыі. Удача спадарожнічала ім толькі ў Буда-Кашалёўскім раёне, дзе былі ўстаноўлены два крыўдзіцелі. Імі аказаліся дзевяцікласнікі Узаўскай СШ Ігар Кавалёў і Сяргей Сяўцоў, якія абрабавалі мясцовы магазін.

### «ЗАБІЎ ЗАРАД Я Ў ПУШКУ ТУГА...»

**НАВАПОЛАЦК. Шыфравальныя лісты з глыбіні вякоў — так назвалі знаходкі, якія паступілі ў фонды Полацкага краязнаўчага музея,— 4 гарматныя ядры.**

Адно з іх — каменнае, больш за чатыры пуды вагой — будаўнікі знайшлі ў час земляных работ каля падножжа вала Івана Грознага і палічылі... элементам архітэктурнага збудавання. Сапраўды, каму, акрамя спецыялістаў, прыйдзе ў галаву думка, што такімі круглякамі стральцы маскоўскага цара маглі «частаваць» з крапасной сцяны ратнікаў караля Стэфана Баторыя.

Астатнія экспанаты чыгунныя. Ядро, што мае ў папярочніку 65 мм, знойдзена ў пясчаным кар'еры каля вёскі Межна, 60-міліметровае — на беразе Заходняй Дзвіны. «Баявая маладосць» іх прыпадае на пачатак XIX стагоддзя. Цікавая гісторыя чацвёртай знаходкі. Рабочы полацкага лакаматыўнага дэпо расколаў звычайную шпалу, спісаную на дровы, а з яе выкаціўся чыгунны шарык. Відаць, у час баявых дзеянняў ці вучэбных стрэльбаў снарад трапіў у дрэва, затым яго спілавалі на шпалы. І вось праз паўтара стагоддзя адна з іх, з сюрпрызам, і трапіла пад сякеру.

Інфармацыя не без інтрыгі. Хацелася б ведаць больш: у чые гарматы забіваліся гэтыя зарады — польскія, рускія, французскія, аўстрыйскія? Якую баталію «прадстаўлялі»? Чые жыцці абышлі гэтыя пасланнікі смерці?

### У НАСТАЎНІКАХ — ФРАНЦУЗЫ

**ГОМЕЛЬ. Гасцінна сустрэлі тут выкладчыкаў-эканамістаў з французскага горада-пабраціма Клерман-Ферана. Яны прыехалі адабраць з найбольш здольных кіраўнікоў кааператываў і малых прадпрыемстваў 15 прадпрымальнікаў, якія ў будучым годзе пройдуць вучобу ў Францыі па праграме «Рыначная эканоміка і рыначныя адносіны».**

МЫ МЯРКУЕМ ТАК. А ВЫ?

## ВОЙСКА ДЛЯ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

Калі меркаваць па каментарыях маскоўскіх газет і тэлебачання, Беларусь цалкам падтрымлівае ідэю аб'яднаных узброеных сіл СНД і ні ў чым не пярэчыць абароннай палітыцы Масквы. Прынамсі, у апошнія дні адышоўшага і ў першыя дні новага года, калі праблема арміі асабліва востра абмяркоўвалася і ў Маскве, і ў Мінску,—пра пазіцыю нашай дзяржавы не гаварылася ні слова. Затое бурна абмяркоўвалася актыўная абаронная палітыка Украіны: прэзідэнт Л. Краўчук аб'явіў сябе галоўнакамандуючым узброенымі сіламі рэспублікі, усе ваенныя акругі на тэрыторыі Украіны і Чарнаморскі флот перайшлі пад юрысдыкцыю Кіева, афіцэры і салдаты рыхтуюцца прынесці прысягу на вернасць «жоўта-блакітному прапору». Такія ж навіны прыходзілі з Баку і Кішынёва.

На гэтым фоне паслухмянасць і пасіўнасць беларускіх лідэраў у вайсковых пытаннях асабліва кідаліся ў вочы. Гэтага не маглі не разумець у афіцыяльным Мінску. І ўжо напярэдадні мінскай сустрэчы 30 снежня было зразумела, што Беларусь наўрад ці пагодзіцца на бестэрміновы абаронны саюз з Сярэдняй Азіяй і Расіяй, калі ў ім не будзе іншых еўрапейскіх рэспублік. У рэдакцыйным каментары напярэдадні Новага года «Звязда» выказвалася наконт гэтага, мяркуючы, што Беларусь услед за сваім паўднёвым суседам хутчэй за ўсё схіліцца да «аблегчанага» варыянта Садружнасці.

Так і адбылося на нарадзе ў Мінску. Праўда, аб неадкладным стварэнні ўласных узброеных сіл Беларусь не аб'явіла. А вось аб тым, што такая мэта ставіцца рэспублікай у блізкім будучым і што аб'яднаныя ўзброеныя сілы неабходны толькі на пераходны перыяд, — нашымі прадстаўнікамі заяўлена было. На жаль, гэта стрыманая, памяркоўная пазіцыя амаль не абмяркоўвалася і не каменціравалася сродкамі масавай інфармацыі, якія сканцэнтравалі ўвагу на бурных падзеях, што адбываюцца ў нашых больш радыкальных суседзяў. Тым не менш, першыя дні надышоўшага года паказалі, што змены ў пазіцыі Беларусі не засталіся незаўважанымі і выклікалі пэўную рэакцыю ў Маскве. Свае візіты па сталіцах дзяржаў — удзельніц СНД галоўнакамандуючы ўзброенымі сіламі маршал авіяцыі Я. Шапашнікаў пачаў менавіта з Мінска. Якімі былі гэтыя перамовы? У інтэрв'ю, якое даў днямі нашай газеце міністр па справах абароны РБ генерал-лейтэнант П. Чавус, гутаркі з маршалам ацэнены як карысныя і патрэбныя, — яны праяснілі пазіцыі бакоў і далі зразумець галоўнакамандуючаму, што Беларусь ад свайго намеру мець уласныя Узброеныя Сілы не адмовіцца. (Інтэрв'ю з П. Чавусам вы зможаце прачытаць у адным з бліжэйшых нумароў «Звязды»).

Можна меркаваць, што ў час гэтых перамоў маскоўскі госць спрабаваў пераканаць беларускіх лідэраў у неабходнасці як мага даўжэй захоўваць існуючыя абаронныя структуры і сістэму кіравання імі.

Як далей будуць разгортвацца падзеі вакол былой Савецкай Арміі? Наколькі доўгім будзе перыяд пераходу ад войскаў ЧБВА да Беларускага Нацыянальнага Войска? Ці на карысць рэспубліцы будзе гэты пераходны перыяд?

На нашу думку, пазіцыя кіраўніцтва Беларусі мае як станоўчыя, так і адмоўныя бакі. Так, пераходны перыяд, магчыма, дазволіць адасобіцца ад маскоўскага цэнтра не так хваравіта, як гэта магло б адбыцца цяпер: не разарвуцца каналы забеспячэння, абслугоўвання і г. д. Але ці ёсць гарантыя, што за гэтыя некалькі гадоў з ласкі цэнтральнага камандавання значная частка матэрыяльнай базы і ўзбраення не перакачуе за межы Беларусі, а выводзімыя з Усходняй Еўропы бяздомныя афіцэры не асядуць на нашай тэрыторыі?

Валянцін ЖДАНКО.

### НЕ ПРАПАДЗЁМ?

**Экспрэс-апытанне стала ўжо неабходным атрыбутам нашай рубрыкі. Да непасрэднай, «жывой» рэакцыі людзей на сённяшняе павышэнне цэн вырашылі звярнуцца і цяпер. Праўда, выйшлі на вуліцы Мінска на гэты раз з адзіным пытаннем: «Ці будзеце вы купляць мяса, калі кілаграм яго стане каштаваць, напрыклад, сто рублёў?»**

**Тацяна САДОЎСКАЯ, настаўніца, зарплата 480 рублёў:** «Буду. У мяне ж дзеці, ім без мяса нельга. Але, вядома, не так часта, як цяпер. Іншая справа, якім мясам мая сям'я будзе харчавацца пры новых, «адпушчаных» цэнах. І тут адказ адназначны: далёка не самым лепшым».

**Іван РАЧЫЛА, пенсіянер, пенсія 280 рублёў:** «Вы што, з глузду з'ехалі? Якое мяса? Я яго ўжо два месяцы ў вочы не бачыў, за выключэннем кавалка варанай каўбасы. Маркоўныя катлеты — вось мая рэальная і, мусіць, ужо канчатковая перспектыва».

**Пеця САКУН, школьнік, кішэнныя грошы — тры рублі 14 капеек:** «Я мяса не купляю пакуль што, а што давядзецца яго менш есці, ужо ўсвядоміў. Але мне здаецца, што гэта не самае страшнае».

**Анатоль КРЫВЕЦ, працаўнік малога прадпрыемства, штомесячны даход — тры тысячы рублёў:** «Буду, буду купляць. Я ж люблю смачна паесці. А калі сур'ёзна, дык кілаграмамі ўжо не накупляешся. Што гэтыя мае грошы? У мяне дачка з сынам вучацца. Так што з мясам праблемы з'явяцца, безумоўна».

**Аляксандр СУПОЛЬСКІ, прадавец мяснога магазіна, аклад 310 рублёў:** «Не прападзём мы, не прападзём».

Можа, далучымся да аптымізму апошняга?

## Аб размерах дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей

У мэтах выканання пастановы Савета Міністраў Дзяржаўны камітэт па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь **пастанавілі:**

1. Зацвердзіць і ўвесці з 1 студзеня 1992 года новыя размеры дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

### I. АДНАРАЗОВЫЯ ДАПАМОГІ:

700 рублёў — дапамога пры нараджэнні дзіцяці (у выпадку нараджэння двух або больш дзяцей дапамога выплачваецца на кожнае дзіця);

350 рублёў—дапамога жанчыне, якая нарадзіла дзіця, калі яна стала на ўлік у жаночай кансультацыі да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці.

### II. ШТОМЕСЯЧНЫЯ ДАПАМОГІ:

420 рублёў — дапамога працуючым маці або бацьку, ці іншаму сваяку, а таксама ўсынавіцелю, які знаходзіцца ў водпуску па догляду дзіцяці да дасягнення ім узросту 3 гады, а таксама непрацуючай жанчыне, якая мае дзіця ва ўзросце да 3 гадоў. Па жаданню асоб, у перыяд знаходжання іх у водпуску па догляду дзіцяці да дасягнення ім узросту 3 гады, яны могуць працаваць на ўмовах няпоўнага рабочага часу (не больш палавіны месячнай нормы), або дома. Пры гэтым за імі захоўваецца права на атрыманне дапамогі ў поўным размеры.

У выпадку, калі ўказаныя асобы перапыняюць водпуск па догляду дзіцяці ва ўзросце ад 1,5 да 3 гадоў, або афармляюць дзіця ў дзіцячую дашкольную ўстанову, дапамога выплачваецца ў размеры 210 рублёў.

Жанчыны, якія знаходзяцца ў водпуску па догляду дзіцяці і адначасова працягваюць вучобу ў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах, прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах і аспірантуры з адрывам ад вытворчасці, атрымліваюць стыпендыю і дапамогу ў поўным размеры.

210 рублёў — дапамога сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

245 рублёў — дапамога сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў (навучэнцаў, якія не атрымліваюць стыпендыі, — да 18 гадоў, а таксама вучняў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў ва ўзросце старэй за 18 гадоў);

175 рублёў — дапамога асобам, якія не працуюць і не атрымліваюць пенсій, даглядаюць інвалідаў I групы, дзіця-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама састарэлых, што дасягнулі 80-гадовага ўзросту;

525 рублёў — дапамога на дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека або хворых на СНІД;

дапамога на дзяцей адзінокім маці; разведзеным мужчынам і жанчынам, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, або ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчымае:

525 рублёў — на дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў;

265 рублёў — на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

305 рублёў — на дзяцей ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў (навучэнцаў, якія не атрымліваюць стыпендыі,—да 18 гадоў, а таксама вучняў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў ва ўзросце старэй за 18 гадоў);

дапамога на дзяцей адзінокім маці з ліку дзяцей-сірот—былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў), а таксама жонкам ваеннаслужачых тэрміновай службы:

630 рублёў — ва ўзросце да 3 гадоў;

315 рублёў—ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

370 рублёў — ва ўзросце ад 6 да 16 гадоў (навучэнцаў, якія не атрымліваюць стыпендыі,—да 18 гадоў, а таксама навучэнцаў дзённых агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў ва ўзросце старэй за 18 гадоў).

2. На дзяцей, якія знаходзяцца пад апекай (папячыцельствам) у сем'ях, што не маюць статуса апякунскіх (прыёмных) сем'яў і не атрымліваюць штомесячных грашовых выплат на ўтрыманне апякаемых у адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 5.02. 1991 г., дапамогі, прадугледжаныя гэтай пастановай, выплачваюцца апекуну органамі народнай адукацыі.

3. Дапамогі на дзяцей старэй за 16 гадоў, якія закончылі дзённыя агульнаадукацыйныя школы, дадаткова выплачваюцца:

— у год заканчэння школы за ліпень, а на дзяцей, якія працягваюць навучанне ў прафесіянальна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, —за жнівень;

— на дзяцей, якія вучацца за кошт уласных сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах і не атрымліваюць стыпендыі, да спаўнення ім 18 гадоў.

4. Выплаты дапамог на дзяцей, устаноўленых пунктамі 1—3 гэтай пастановы, рабіць па месцы асноўнай работы (вучобы) маці, а ў выпадку, калі маці не працуе,—па месцы асноўнай работы (вучобы) бацькі або асоб, якія замяняюць бацькоў. У іншых выпадках дапамогі выплачваюцца ў органах сацыяльнага забеспячэння або народнай адукацыі па месцы пражывання бацькі з дзіцем або асоб, якія замяняюць бацькоў.

Адзінокім маці выплата дапамогі ў студзені 1992 года ажыццяўляецца органамі сацыяльнага забеспячэння, а з 1 лютага 1992 года назначэнне ўказанай дапамогі робіцца ў парадку, прадугледжаным абзацам першым гэтага пункта.

## Хто заплаціць за абед?

**ЛІЧБЫ Ў МЕНЮ ЗАВОДСКІХ СТАЛОВЫХ ЯШЧЭ НЕ ПАЛОХАЮЦЬ, АЛЕ...**

**Усе мы памятаем, як пасля красавіцкага павышэння цэн рабочыя мінскіх прадпрыемстваў, глянуўшы на новыя цэннікі ў сваіх сталовых, выйшлі на плошчу перад Домам урада. Ці не чакае нас зараз нешта накшталт мінулагодніх рабочых хваляванняў.**

**З гэтым пытаннем карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да начальніка ўпраўлення грамадскага харчавання Мінгандлю Рэспублікі Беларусь А. БАТУРЫ.**

— Сёння робіцца ўсё, каб сацыяльных выбухаў не адбылося. Па-першае, згадзіцеся, і «ўдар» быў не такі ўжо моцны — на мяса, хлеб, малочныя вырабы цана пакінута старая, і гэта дазваляе пазбегнуць рэзкага павышэння кошту страў у сталовых. Па-другое, перад прадпрыемствамі пастаўлена задача кампенсаваць падаражанне харчавання сваіх рабочых і служачых. Спецыяльнай пастановай Савета Міністраў рэспублікі на гэтыя мэты ім дазволена выкарыстоўваць частку сваіх прыбыткаў, а для стварэння дадатковых магчымасцей значна зніжаны сумы адлічэнняў у бюджэт. Астатняе залежыць ужо ад прадпрыемстваў, іх фінансавага становішча. 24 снежня на пасяджэнні Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, якая аб'ядноўвае буйнейшыя рэспубліканскія заводы, вырашана даплачваць кожнаму працуючаму штодзённа па 10 рублёў — з улікам нават далейшай лібералізацыі цэн. Станоўча гэта пытанне вырашана, напрыклад, у аб'яднанні «Беларусьга н д а л ь м а ш». Трэба зазначыць, што вельмі многае тут залежыць ад кіраўніцтва, ад яго разумення чалавечых патрэб.

Але не паўсюдна яшчэ, на жаль, праблемы кампенсацыі харчавання вырашаны належным чынам. Вось Галоўмінбуд — у лістападзе зарплата будаўнікам павышана, а сёння, у студзені, грошай пакуль што няма. Трэба шукаць сродкі.

Не ўсё яшчэ добра прадумана і ў некаторых вышэйшых навучальных установах. У радыётэхнічным інстытуце адмаўляюцца плаціць кампенсацыю студэнтам-мінчанам, недастатковая кампенсацыя ў педагагічным інстытуце, механізацыі сельскай гаспадаркі і некаторых іншых.

**— Якія механізмы можна задзейнічаць апрача сістэмы грашовых кампенсацый?**

— Магчыма, варта расшыраць у асартыменце долю адносна танных агароднінных страў. Даўно ўжо неабходна змяншаць у стравах утрыманне цукру. У параўнанні з замежнымі аналагамі ў нашых стравах цукру ледзь ці не ўдвая больш. Зараз, калі ён так падаражаў, тым больш пара ўзяцца за розум. І для здароўя карысней будзе. Больш трэба ўжываць малочных прадуктаў. А яшчэ прадпрыемствам трэба шырэй выкарыстоўваць магчымасці падсобных гаспадарак. На сённяшні дзень у Мінску 10 прадпрыемстваў з буйнымі падсобнымі гаспадаркамі ўзялі на свой баланс заводскія сталовыя, і справы там ідуць добра, людзі не скардзяцца (адзінае — хацелася б, каб і па зарплаце, і па астатніх пазіцыях становішча работнікаў заводскіх сталовых было падцягнута да агульназаводскага ўзроўню).

Трэба заўсёды памятаць, што на прадпрыемствах рэспублікі штодня харчуецца амаль 2,5 мільёна чалавек, і ў наш складаны час ім патрэбна падтрымка. Да далейшай лібералізацыі цэн (а ў тым, што яна будзе працягвацца, сумненняў няма) пара рыхтавацца ўжо сёння. Інакш сапраўды можна дачакацца любых сацыяльных катаклізмаў.

Гутарыў
Аляксандр БЯРСУДСКІ.

### ЕДУЦЬ КОНІ Ў ІТАЛІЮ

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ **(У. Пернікаў).** 560 коней прадало летась у Італію абласное вытворчае аб'яднанне па племяннай жывёлагадоўлі. На выручаную канверсуемую валюту яно набыло камп'ютэры і племянных цялушак. І сёлета коні будуць адпраўляцца на экспарт. Іх гадуюць на трох коняфермах Гомельскага, Петрыкаўскага і Рэчыцкага раёнаў. Новая справа абяцае добры прыбытак.

Мал. Алега ПАПОВА.

### Юстас — Алексу: «Сустрэча праходзіць...»

Перагаворы, якія праходзяць у Белавежскай пушчы паміж лідэрамі дзвюх рэспублік — Беларусі і Літвы, застаюцца пакуль што для нас тайнай. Аб чым вядуць гутарку С. Шушкевіч і В. Ландсбергіс, якія праблемы абмяркоўваюць — пра тое не змог паведаміць нават прэс-цэнтр Вярхоўнага Савета. Адзінае, што вядома,— сустрэча пачалася 3 студзеня.

«Агенцтва РІД».

### Казахстан просіцца ў ААН

ААН. Казахстан звярнуўся з просьбай аб прыняцці ў ААН. Аб гэтым паведаміў у пятніцу журналістам старшыня Савета Бяспекі ААН у бягучым месяцы Дэвід Хэней (Вялікабрытанія). Гэта просьба будзе абмяркоўвацца, відаць, Саветам Бяспекі ў канцы студзеня перад аднаўленнем работы 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, адзначыў ён. Пісьмо з просьбай аб прыняцці ў ААН падпісана Прэзідэнтам Казахстана Нурсултанам Назарбаевым.

### Бывай, зброя!

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў МЗС Украіны, вядомы спецыяліст міністэрства абароны былога СССР па праблемах знішчэння ядзернай зброі А. Зелянцоў паведаміў, што пачаўся працэс вывядзення ядзернай зброі, размешчанай на тэрыторыі Украіны, з баявога дзяжурства. Першы этап гэтага працэсу, які ўключае ў сябе вывядзенне з дзяжурства тактычнай зброі, праходзіць наступным чынам: зброя разукамплектоўваецца і вывозіцца на склады пры заводах, дзе была выпушчана. Знаходзяцца яны ў Расіі. Дзе менавіта — А. Зелянцоў паведаміць адмовіўся.

БелаПАН.

КАЛЯДЫ: ЯК ГЭТА БЫЛО

## «Цярэшку жанілі» да ранку

**Надышлі праваслаўныя Каляды — і мы віншуем са святам усіх, хто па сваёй традыцыі адзначае іх у гэты час.**

**Напярэдадні рэдакцыя атрымала каштоўны этнаграфічны дакумент. Ліст-успамін нашага чытача нібы перакідвае масток у мінулае, калі свята, хоць і неафіцыяльнае, паўнакроўна жыло ў народным побыце. Аграрна-шлюбная гульня «Жаніцьба Цярэшкі» была адным з арыгінальных калядных абрадаў у Беларусі.**

**Якімі будуць «новыя Каляды» — пакажа жыццё. Але варта зазначыць, што ўсё новае — гэта добра забытае старое...**

Падзеі, аб якіх ідзе гаворка, праходзілі ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў на Ушаччыне. У адзін з калядных вечароў мы адпачывалі ў хаце Валенты ў вёсцы Варкуды. Вядома, клубаў, дыскатэк або другіх модных цяпер тусовак тады не было, але вясковая моладзь не сумавала.

Сустрэўшыся ў гэты раз, завялі размову, куды пайсці на вечарынку ў суботу і нядзелю. Прызнаны завадатар вяркудскіх хлопцаў Іван Чумак прапанаваў: «Давайце мы ў гэту суботу будзем жаніць Цярэшку ў нашай вёсцы, а ў наступную пойдзем у Баброва».

— Добра, хай так і будзе, — адказала некалькі галасоў, — толькі трэба дамовіцца з Базыліхай, каб пусціла пагуляць у сваю хату. А «бацьку» і «маці» ты, Іван, сам пазавеш. Лепей Буслаева, ён вельмі добра справу вядзе.

— А як гэта, жаніць Цярэшку?—запытаў я.

— Знайдзі бутэльку, а астатняе сам убачыш, — адказалі мне.

І вось у суботу моладзь пачала збірацца на вечарынку ў хату Базыліхі. З гармонікам прыйшоў вясковы музыкант Віця Валентаў, а з бубнам падлетак Ваня. Апранулі ўсё лепшае, хаця адзенне ў той час не вельмі бударажыла нашы думкі. У хлопцаў гэта быў баваўняны, суконны касцюм, кірзавыя боты, кашуля з незашпіленым верхнім гузікам. Больш модныя мелі замест пінжака футболку, штаны «клёш», чаравікі і ў кармане пачак «Казбеку».

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ПРАЕКТ КАНСТЫТУЦЫІ: АСАБІСТАЯ ДУМКА

# Нарэшце маем справу з кваліфікаванай работай

Цікавы дакумент з'явіўся ў друку. З задавальненнем адзначаю, што Канстытуцыйная камісія, народныя дэпутаты і вучоныя-правазнаўцы вельмі старанна папрацавалі і стварылі тое, аб чым большасць грамадзян і не марыла. У цэлым праект Канстытуцыі сапраўды мае на мэце стварыць на беларускай зямлі незалежную дэмакратычную дзяржаву. Таму поўнасцю падтрымліваю ўвядзенне прэзідэнцкага праўлення, зніжэнне ў парламенце да 160 колькасці дэпутатаў, яго прафесіяналізацыю. А таксама ўвядзенне тэрмінаў «Сойм» замест «Вярхоўны Савет», «Рада» замест «Саветы», сутнасць якіх ніколі не адпавядала іх найменню. Калі грунтоўна мяняць грамадскі лад, трэба мяняць і тэрміны, бо яны павінны цалкам адпавядаць новай форме народаўладдзя.

Хацеў бы прапанаваць адлюстраваць у новай Канстытуцыі, што на перыяд сваіх паўнамоцтваў у парламенце, вышэйшым выканаўчым і распарадчым органе, органах мясцовага кіравання і самакіравання адказныя асобы спыняюць сувязь са сваімі партыямі — каб выключыць процістаянне вышэйшых і ніжэйшых улад. Лічу небходным замацаваць у Канстытуцыі, што старшыня Сойма, яго намеснікі, прэзідэнт, прэм'ер-міністр, кіраўнікі ўрада (міністры), а таксама кіраўнікі мясцовага органа самакіравання на перыяд сваіх паўнамоцтваў спыняюць членства ў палітычных партыях і іншых грамадскіх аб'яднаннях, якія дамагаюцца палітычных мэт, як гэта зроблена ў адносінах да пракурора і судовых органаў. Хоць бы на пераходны перыяд. Асноўная мэта Канстытуцыі — садзейнічаць кансалідацыі прагрэсіўных сіл дзеля росту дабрабыту насельніцтва, стварэнню моцнай заканадаўчай і выканаўчай улады, самастойнай дэмакратычнай дзяржавы.

Выдатна тое, што парламент прадугледжваецца прафесіянальны, у выніку чаго дэпутаты будуць заняты вырашэннем інтарэсаў усіх слаёў насельніцтва, а не асобных яго груп, як зараз, калі кожны дэпутат, як кажуць, цягне коўдру на сябе, абараняючы інтарэсы сваіх выбаршчыкаў.

Што датычыцца артыкула 46-га, то, на маю думку, варыянты аднолькавыя па зместу і сэнсу. Але я аддаў бы перавагу асноўнаму, як больш грунтоўнаму, а не яго двайніку.

Адносна выбарчай сістэмы. Мэтазгодна не пазбаўляць выбарчых правоў асоб, якія ўтрымліваюцца па прыгавору суда ў месцах пазбаўлення волі. У такім разе яны адчувалі б сябе паўнапраўнымі грамадзянамі, што садзейнічала б іх перавыхаванню. Ізгоямі ў дэмакратычным грамадстве нельга рабіць і злачынцаў. Варта ўлічыць думку саміх асуджаных, а таксама тое, як гэта пытанне разглядаецца ў канстытуцыях дэмакратычных дзяржаў.

У артыкуле 82-м па правядзенню рэферэндуму адзначаецца, што «рашэнне лічыцца прынятым рэферэндумам, калі за яго прагаласавала большасць грамадзян, якія ўдзельнічалі ў галасаванні». Я прапанаваў бы дапоўніць апошнюю частку артыкула словамі «маюць права». Пасля дапаўнення артыкул бы канстатаваў: «Рашэнне лічыцца прынятым рэферэндумам, калі за яго прагаласавала большасць грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у галасаванні». Пры крытэрыі большасці прагаласаваўшых рашэнне можа быць прынята, калі большасць грамадзян не прагаласуе, палічыць немэтазгодным абмяркоўваць вынесенае на рэферэндум пытанне. Таму прапаную дапоўніць і артыкул 103-ці аб выбранні прэзідэнта, дзе адзначаецца, што «Прэзідэнт Рэспублікі лічыцца выбраным, калі за яго прагаласавала больш палавіны грамадзян рэспублікі, прыняўшых удзел у галасаванні». Замест «прыняўшых удзел» напісаць «унесеных у спісы для галасавання».

У артыкуле 95-м раю захаваць прапанову, што ў састаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі ўваходзяць «кіраўнікі фракцый, што аб'ядноўваюць не менш 15 дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі». Гэтым самым у кіраўніцтва дапускаюцца прадстаўнікі палітычных партый. Можа толькі варта павялічыць колькасць дэпутатаў, якія маюць права ствараць фракцыі, каб дэпутацкі корпус не распаўся на дробныя фракцыі.

Цалкам і поўнасцю ўхваляю змест і загаловак раздзела «Мясцовае кіраванне і самакіраванне». Ясна і абгрунтавана выкладзена ўсё, чым павінна займацца Рада. Гэты тэкст значна лепшы, чым у другім варыянце.

Прапаную раздзел 9. «Суд» прыняць у другім варыянце — «Судовая ўлада». Тэрмін больш змястоўны. Падкрэсліваць, што судаводства ў рэспубліцы вядзецца «на мове большасці насельніцтва данай мясцовасці» немэтазгодна. Беларуская мова даступная рускамоўнаму насельніцтву. І на практыцы ніхто не будзе забараняць карыстацца рускай мовай, што і маецца на ўвазе.

**Аляксандр ДЗЕРАВЯНКА,**
**супрацоўнік МУС Беларусі,**
**маёр міліцыі.**

**У НЕ ТАКІЯ ЎЖО й далёкія часіны гэта было трывалай традыцыяй: не паспее з'явіцца ў друку больш-менш важны дакумент, як паўсюдна ўсчыналася дэманстрацыя ўсенароднай актыўнасці: «з вялікім задавальненнем і радасцю», «горача адабраем і падтрымліваем», «дакумент выключнай гістарычнай важнасці». Кідаліся лепшыя журналісцкія сілы на выяўленне і афармленне голаса народу. У высокіх дамах вялі пільную статыстыку гэтых актаў волевыяўлення народа. Хаця ад саміх дакументаў мала што залежала. Ва ўсякім разе для тых, чыімі рукамі «адабралі».**

**Сёння мы сапраўды з нецярпеннем чакаем важных і новых дакументаў, якія маглі б пакласці пачатак перайначванню жыцця, сапраўдным і адчувальным пераменам. Наша адабрэнне, тым болей гарачае, мала каму патрэбна, а вось уважлівае прачытанне, прапановы, карэкціроўкі... Лягчэй, вядома, усё спісваць на недасканаласць законаў. Цяжэй і адказней рабіць іх дасканалымі. Тым болей такія, як Канстытуцыя. Нам па іх жыць ,і, хочацца верыць ,працяглы час, не крэмзаючы, не перапісваючы як не раз у дзесяцігоддзе. Лепей зрабіць гэта зараз. Газета друкуе розныя думкі, нават калі яны і не надта падабаюцца.**

# І зноў гульня ў словы

НЕШТА сумна становіцца ад знаёмства з дакументам, які будзе накіроўваць усё наша жыццё. Возьмем хоць бы правы незалежнага грамадзяніна незалежнай дзяржавы. Колькі было наварочана слоў у ранейшых гэткіх жа паперах! І што? Ці трэба гаварыць аб сённяшніх правах і аб тым, як яны забяспечаны? І ў новым дакуменце ўсё засцілае слоўны туман.

Грамадзянін мае права на працу, сцвярджае праект Канстытуцыі. А дзяржава не бярэ на сябе забеспячэнне гэтых правоў, таму што яна «стварае ўмовы для падрыхтоўкі грамадзян да працы і іх працаўладкавання». І ўсё. Стварае толькі ўмовы, а ты, грамадзянін, выкручвайся як можаш. Могуць сказаць, што абавязацельствы дзяржавы зафіксаваны ў 20-м артыкуле. Тады чым адрозніваецца артыкул 39-ы ад артыкула 42-га, дзе сказана аб гарантыі права грамадзян на ўласнасць? Адно права, выходзіць, гарантуецца, а другое — так сабе, як прыйдзецца.

Ці возьмем права на жыллё. Яго няма, выпала. Наперадзе грандыёзная прыватызацыя жылля, станем самі сабе гаспадарамі, пры чым тут дзяржава? Якое хісткае права на жыллё раней ні было, але ж за спінай кожнага стаяла дзяржава, і грамадзянін сёе-тое некалі і атрымліваў. А зараз мае права толькі на дапамогу з боку дзяржавы ў атрыманні і пастаянным карыстанні жыллёвым памяшканнем. Як жа тады з прызнаннем чалавека вышэйшай каштоўнасцю дзяржавы і грамадства? Зноў прыгожыя словы. Зноў, здаецца, усчынаецца нібыта пахаваная ўсімі прапагандысцкая мітусня.

Падобнае і з правамі на медыцынскае абслугоўванне, на адукацыю. Мы ўсе добра ведаем: калі нават толькі намякнуць, што дзяржава ў сваіх установах допускае платнае абслугоўванне ці навучанне, бясплатнага ўжо не будзе, а калі і здарыцца, то будзе такім, куды нармальны чалавек не пойдзе. Дык ці можна ад усяго гэтага выходзіць на вуліцы і крычаць «віват» будучаму Асноўнаму Закону?

А вось тут хочацца запляскаць і кінуцца ў скокі. Грамадзянам, нарэшце, будзе дазволена, дасягнуўшы шлюбнага ўзросту, уступаць у шлюб і ствараць сем'і. Страшна падумаць, што будзе, калі дэпутаты не прымуць гэтага артыкула! Паўторыцца гісторыя з мамантамі? Чаму б яшчэ не зрабіць запіс аб дазволе любіць з першага позірку, раўнаваць, самім даваць імёны дзецям?

Вялікі дзякуй і за дазвол звяртацца ў вышэйшыя інстанцыі, накіроўваць туды не толькі асабістыя звароты, але і калектыўныя.

Артыкул 43. Аб праве на ўдзел у культурным жыцці, свабоду творчасці. Як добра, што дазволяць пісаць вершы, раманы, нікога не баючыся, хадзіць у кіно, тэатры, наведваць музеі, нават, калі разбагацеем, набываць нешта ў сталічнай мастацкай галерэі або на тратуары ля мастацкага салона! Хочацца нізка пакланіцца аўтарам гэтага артыкула.

На жаль, вельмі і вельмі недапрацаваным выпусцілі дакумент у свет. Сляды паспешлівасці амаль у кожным артыкуле. Закон не церпіць размытасці, двухсэнсавасці, каб любы бюракрат мог яго чытаць так, як яму захочацца. А паглядзіце артыкул 31-ы. Цэнзура не дапускаецца, сказана. Чаго? Перакананняў, свабоднага выказвання на сходах, мітынгах або выказванняў грамадзян на сваёй кухні? Да чаго дапасаваць гэту цэнзуру? Ці артыкул 34-ы. Палітычныя партыі маюць права карыстацца сродкамі масавай інфармацыі «ў аб'ёме і парадку, устаноўленым законам». Даруйце, а як жа са свабодным выказваннем перакананняў у межах «аб'ёмаў». І хто скажа, чым будзе вымярацца аб'ём — мінутамі, аркушамі паперы, колькасцю слоў, газет, часопісаў? А калі партыя ці група грамадзян, якія аб'ядналіся, займелі свае выданні, як тут з аб'ёмамі і «парадкам»?

Запісана ў артыкуле 37-м, што грамадзянін мае права роўнага доступу да любых пасад у дзяржаўных органах. Пачакаем з роўным доступам. Трэба пражыць 35 гадоў, ды 10 з іх на тэрыторыі Беларусі, тады толькі можаш атрымаць права быць прэзідэнтам. Гэта адно, а яшчэ выйдуць законы ў адпаведнасці з артыкулам 69-м, дзе запісана аб неабходнасці вызначыць узроставы цэнз дэпутатаў і іншых асоб, якіх будуць выбіраць на дзяржаўныя пасады. Усім зразумела, што маецца на ўвазе. І такі падыход, напэўна, правільны. Але ж у Канстытуцыі кожны радок павінен чытацца адназначна і не даваць падстаў для маніпуліравання, не выклікаць сумнення і недаверу.

У нашы дні, калі кожны сельсавет хоча мець свайго прэзідэнта, як жа цэлай дзяржаве без яго? Таму, відаць, шматслоўны шосты раздзел больш нагадвае інструкцыю, чым найважнейшы дакумент дзяржавы. Ці не для таго, каб лёгка было прыстасаваць напісанае і для раённага ці сельсавецкага прэзідэнцкага звяна? Лёгкасць, з якой можна заняць вышэйшую пасаду, пры адпаведным узросце і цэнзе аседласці, незвычайная. Дастаткова, каб за кандыдата прагаласавала «больш палавіны грамадзян Рэспублікі, прыняўшых удзел у галасаванні» (арт. 103). Сёння на выбарчыя ўчасткі прыходзіць ад 20 да 30 працэнтаў выбаршчыкаў. Выходзіць, хопіць для выбрання прэзідэнта 11—16 працэнтаў галасоў. Здаецца, гэта не вельмі стасуецца з усенароднымі выбарамі. Зразумела, такога не будзе, але ж запісанае так чытаецца і выклікае іменна такія думкі.

І палярны артыкул аб зняцці прэзідэнта з пасады. Як быў лёгка абраны, так будзе і лёгка зняты. Дастаткова 25 дэпутатам узняць пытанне, і Вярхоўны Савет прымае справу да разгляду. Так усё проста. А што? Старшыню калгаса таксама выбіраў народ, а абвяшчала яму вымовы і здымала з работы бюро райкома кампартыі. 9—11 чалавек вырашалі за ўвесь калгасны калектыў і нават яго думкай не цікавіліся. І нічога. Але ж тут іншае. Хоць народ і выбірае дэпутатаў, давярае ім ад свайго імя весці справы, але не ўсе свае паўнамоцтвы ён перадае дэпутацкаму корпусу. У тым ліку і выбары прэзідэнта. Здаецца, працэдура вызвалення ад прэзідэнцкай пасады павінна быць больш прадуманай. А так вельмі ўжо непрыкрытая цяга да старых метадаў. Нават у словах. Не вызваліць, не адхіліць ад пасады, а зняць!

На вялікіх трыбунах стала модна спасылацца на цывілізаваныя краіны. Маўляў, там і так і гэтак, а ў нас зусім не тое. Сагрупу і я штампам. Канстытуцыя ЗША існуе 200 гадоў (цікава, ці была тады Паўночная Амерыка цывілізаванай краінай?) І за два стагоддзі ў яе ўнесена не больш трыццаці паправак. У нас кожныя 15 гадоў новая канстытуцыя. Мяркуючы па прапанаванаму нам тэксту, канстытуцыйная завіруха будзе працягвацца.

**Віктар КРУКОЎСКІ,**
**выбаршчык.**

ГАЗЕТА ВЫСТУПІЛА. ШТО ЗРОБЛЕНА?

# «У мяне не зазваніў тэлефон...»

*Так называўся артыкул («Звязда», № 212 за мінулы год), у якім ішла гаворка аб тым, чаму ў кватэрах некаторых ветэранаў маўчалі тэлефоны ці наогул доўгі час іх не ўстанаўлівалі састарэлым людзям, хоць яны на гэта мелі права.*

**РЭДАКЦЫІ АДКАЗВАЮЦЬ:**

**в. а. начальніка Гомельскага абласнога вытворча-тэхнічнага ўпраўлення сувязі В. ШЫПАВАЛАЎ:**

— Сапраўды, такі факт, калі доўгі час не працаваў кватэрны тэлефон інваліда І групы Р. Альшэўскага з в. Навасёлкі Рагачоўскага раёна, меў месца. Выклікана гэта было тым, што пры рэканструкцыі аўтамабільнай дарогі пашкодзілі кабель, пракладзены ў населены пункт.

Цяпер Рагачоўскім раённым вузлом сувязі праведзена вынаска кабелю з-пад асфальту, і работа тэлефона аднаўлена. За час бяздзеяння апарата абаненту будзе зроблены пералік аплаты за яго невыкарыстанне.

**Намеснік міністра сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь В. ВАЛАШЧУК:**

— Паведамляем, што затрымка з устаноўкай тэлефонаў інвалідам і ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, якія жывуць у в. Коўгары Асіповіцкага раёна, адбылася ў сувязі з нясвоечасовай пастаўкай кабельнай прадукцыі для рэканструкцыі лініі ад АТС да вёскі заводамі-вытворцамі, якія не выканалі дагаворныя абавязацельствы. Тым не менш тэлефон В. Сакаўцу ўстаноўлены, а яго аднавяскоўцам Г. і Ф. Міхадзюкам гэта будзе зроблена ў хуткім часе.

Адначасова тлумачым, што новыя тарыфы на пуслугі сувязі для насельніцтва ў рэспубліцы ўведзены з 2.04.91 г. У прыватнасці, устаноўка тэлефона каштуе 300, а для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны — 60 рублёў. Зазначым: не паўтысячы, як патрабавалі з пенсіянераў раённыя сувязісты.

ЖЫЛЛЁ ДЛЯ ВАЕННЫХ

**Турэцкая фірма «ЭНКА» пачала будаўніцтва ў Слоніме 73-х пяціпавярховых жылых дамоў на 1.500 кватэр, а таксама школы, пошты, дзіцячага сада, паліклінікі, кацельнай.**

**Жыллё прызначана для ваеннаслужачых, якія прыбываюць з Германіі. На ўзвядзенне аб'ектаў спатрэбіцца не больш года, так што к канцу 1992-га яны будуць здадзены навасёлам пад ключ.**

**Фота Юрыя ПАЎЛАВА (БЕЛТА).**

ПРА НАБАЛЕЛАЕ

**ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, што ў Беларусі ўзята на ўлік 340 тысяч псіхічна-анамальных дзяцей, што толькі ў Мінску працуюць чатыры школы для разумова адсталых дзяцей! У цэлым «пагранічны стан» паміж неўрозам і больш цяжкімі формамі псіхічнага расстройства выяўляецца ў 70—80 працэнтаў беларускіх дзяцей.**

# Пакрыўджаныя Богам

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, што нават 2,5 працэнта здаровых цяжарных жанчын у наш экалагічна нядобры і наогул вар'яцкі час нараджаюць дзяцей з рознымі паталогіямі? І для іх светлая раніца доўгачаканай радасці мацярынства можа абярнуцца суцэльным пеклам. Нехта цягне гэты крыж, нехта спіхвае яго са сваіх плячэй на дзяржаўную шыю, некага дзяржава сама пазбаўляе бацькоўскіх правоў, часцей — з-за п'янства.

Вось і запаўняюцца спецустановы, накшталт школы-інтэрната № 7 для дзяцей з недаразвітым інтэлектам, сіротамі ды пакінутымі. Гэта навучальная ўстанова пачала працаваць у 1986 годзе — у былым Саюзе яна адна з першых такога тыпу. Цяпер у ёй 214 дзяцей з дыягназам алігафрэнія ў ступені дэбільнасці.

Нельга сказаць, што дзецям там дрэнна — педагогі робяць сваю справу па-майстэрску, стараюцца даць за 9 гадоў навучання хоць мінімальныя веды — у аб'ёме 4 класаў, абучыць прафесіянальным навыкам — абутніка, сталяра, слесара, малодшага медыцынскага персаналу, рабочага карданажна-пераплётнага аддзела, зялёнай гаспадаркі.

Сямён Яфімавіч Гацаў, псіхолаг школы-інтэрната, успамінае словы сваёй настаўніцы-мэтра Клары Гаўрылаўны Ярмілавай: «Вы не абавязаны любіць дэбілаў, але аддаць душу — абавязаны». А аддаючы душу, самога сябе, — ці не пачынаеш любіць, альбо, у крайнім выпадку, хоць разумець?

«Вось гэта, тая, той...— цяжкія выпадкі...» Але і гэтыя «цяжкія выпадкі» адносяцца да старэйшых з павагай. Таму што тыя бачаць у іх асобу, размаўляюць з імі, як з роўнымі. І нібы павісла ў паветры наша самае цяжкае і страшнае пытанне: «А ці патрэбна жыццё ТАКІМ?»

— Ды што вы, вядома патрэбна! Яны таксама радуюцца сонцу, упаўшаму з дрэва кляноваму лісту... Толькі, можа, крыху запаволена альбо, наадварот, бурна.

Дзеці гэтыя — без комплексаў у нашым разуменні слова. Таму ім лёгка жыць сярод сваіх, і цяжка — з намі. А ўсё ж паняцце «норма» бліжэй да філасофскага, чым да юрыдычнага. Напрыклад, гідрацэфал можа быць як ідыётам, так і геніем. Загубіўшы яго пры нараджэнні — ці не станем забойцамі таленту?

Можа, і няма геніяў сярод насельнікаў школы-інтэрната, але толькі не майстроў... Пабачылі б вы малюнкі, падрыхтаваныя да адпраўкі ў Ізраіль на выстаўку, вязаныя рэчы — шапачкі, шалікі, кофтачкі; ці не ўразілі б вас вязаныя пано-палотны — своеасаблівы погляд на свет. На Міжнародным конкурсе дзіцячага тэатра, які праходзіў у Еўпаторыі ў канцы жніўня, дзеці атрымалі дыплом І ступені...

...І як горка ўсведамляць, што большай часткай усё гэта застанецца незапатрабаваным — скончыўшы школу, хлопчыкі і дзяўчынкі з цяплічных умоў пераходзяць у суровае жыццё. Толькі некаторыя трапляюць у дамы інвалідаў. Астатнія павінны ўліцца ў грамадства. А зрабіць гэта не могуць па розных прычынах. І адна з іх—што ім адмаўляюць у прыёме на работу, нягледзячы на шматлікія пастановы. І тут вінаваты не канкрэтныя дырэктары ды начальнікі, а ўмовы нашага жыцця. Кіраўнікі прадпрыемстваў разважаюць прыкладна так: «Навошта ён мне? З ім адны турботы. Ды і раптам здарыцца што — потым адказвай. У дадатак і кватэру трэба даць у першую чаргу, а ў мяне і так вунь колькі патрэбных прадпрыемству рабочых не маюць жылплошчы».

Нават калі і пашанцуе — хворы ўладкаваўся, — з-за няўстойлівай псіхікі яму вельмі цяжка адаптавацца ў калектыве. Большасць страчвае работу, заадно — месца ў інтэрнаце і прапіску, а значыць, і надзею на будучае.

Наогул, ні ў працоўнай кніжцы, ні ў картцы ўліку — нідзе не ўказваецца, што гэты чалавек — душэўна хворы. Ён нібы роўны з усімі, такі, як і ўсе. З аднаго боку, гэта добра— чалавек пазбягае дадатковай псіхічнай траўмы. З другога — ад яго і патрабуюць, як ад усіх. Але ён проста не ў стане адолець адразу ўсе «неабходнасці».

І вось напластоўваецца адно на адно: эйфарыя (выйшаў са школы), агрэсія (не прынялі) і нарэшце самы небяспечны час дэпрэсіі (узмацняецца адмоўны псіхічны стан). Як сведчыць Сямён Яфімавіч Гацаў, такія людзі— і ў дзяцінстве, і стаўшы дарослымі —вечныя эмігранты ў нашай краіне: няма ні фізічных, ні маральных сіл асіміліравацца з грамадствам. Нават праз гады. Хвароба суправаджае іх на працягу ўсяго жыцця. І набываюць яны, часцей за ўсё, імідж клоуна альбо таго, хто ад усіх прымае кухталі.

Калі ж выпускнік апынуўся на вуліцы, то дарога, як правіла, вядзе ў месцы «не такія ўжо і далёкія» (у нашых турмах адбываюць тэрмін каля 40 працэнтаў дэбілаў). Канешне, гэты шлях не адзіны. Частка пасля доўгіх блуканняў усё ж трапляе ў дом інвалідаў, частку ўладкоўваюць як абслуговы персанал, як рабсілу для чарнавой работы, некаторыя вяртаюцца ў школу, іх адзіны прытулак. Людзі, якія працуюць тут, выгнаць такіх «выпускнікоў» не могуць, бо ведаюць — пайсці ім няма куды. Вось і заўважаеш сярод шаснаццацігадовых навучэнцаў дваццаці-дваццацідвухгадовых.

Неяк падумалася: навошта грамадства рыхтуе з гэтых дзяцей рэцыдывістаў, якія вымушаны ісці на злачынствы? Навошта рыхтуе рабочую сілу самай нізкай кваліфікацыі, а патрабуе ад іх высокіх дасягненняў і выкідвае потым як непатрэбных? Можа, прычына ў сістэме навучання? Можа, не гэтаму трэба іх вучыць? А вучыць, як выжыць?

Таму і нарадзілася ідэя стварыць на базе школы навукова-практычную лабараторыю і цэнтр для спецыяльнай рэабілітацыі дзяцей. Мэта іх — дапамагчы юнакам і дзяўчатам увайсці ў наш складаны свет. Добры намер быў падтрыманы Міністэрствам аховы здароўя, дырэктарам НДІ дэфекталогіі акадэмікам Ул. Лубоўскім. Цяпер многае залежыць ад Міністэрства народнай адукацыі рэспублікі, ад гарадскога аддзела народнай адукацыі, ад іншых структур, якія могуць дапамагчы ў вырашэнні гэтага пытання.

Нас жа трэба вучыць адносіцца да такіх людзей з божай адметінай па-людску. Ці не хопіць адгароджвацца, заплюшчваць вочы на несвяточнае, на тое, што існуе, але чаго мы не жадаем бачыць. Азірніцеся навокал — колькі іх — такіх няшчасных! І каб зрабіць першы крок, падумайце: не выключана ж, што заўтра ракавая магчымасць стаць бацькам такога дзіцяці можа зачапіць любога.

**Міхась ЛЯБЕДЗІК,**
**Ларыса ПРАЎЛОЦКАЯ,**
**студэнты факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.**

ВЕРШАВАНЫ ЛІСТ

# ЖЫЦЦЁ НЕ МЁД. І НАВАТ НЕ ЦУКАР

Цяжка жыць у вёсцы стала,
Хоць і ў горадзе не мёд.
Плацяць людзям вельмі мала,—
Вось і круціцца народ.
Крыху бульба выручае,
Сваё сала, агарод.
Ледзь калгаснік паспявае:
Не жыццё—наадварот.
Чуць лягчэй таму, хто можа
Сам пасеяць і скасіць.
Цяжка тым, дай рады Божа,
Каму трэба ўсіх прасіць.
Калі трэба што прывезці —
Да суседа: «Выручай!»
Той не просіць: «Дай паесці»,
А гарланіць: «Налівай!»
І адзін адказ кабеце:
«Вадкасць» ёсць — бяром падрад».
Хай вас, дзеткі, ліхалецце—
Трэба ладзіць апарат.
Бо талонаў не хапае
На ўсе справы, хоць памры.
Калі дзень такі бывае,
Што частуеш разоў тры.
Чай без цукру п'е бабуля
І варэння больш не есць:
Брагі поўная каструля,
Літраў гэтак можа шэсць.
Вось цячэ, хоць і сівая, —
Посуд поўны да краёў.
Яна бабку выручае:
Выпівох, як мураўёў...
Чым закончыцца ўсё гэта,
Цяжка нават уявіць.
За зімою будзе лета.
Але як мы будзем жыць?

**І. ВАЛЬЧЭЎСКІ.**
**г. п. Івянец.**

Дасылаючы гэты верш у рэдакцыю, наш чытач паведаміў пра сябе, што ён працуе настаўнікам матэматыкі ў Івянецкай сярэдняй школе. А да рыфмаў цягне таму, што родам ён з Уздзеншчыны, дзе «паэт сядзіць пад кожным комінам». І. Вальчэўскі (які, на жаль, не назваўся поўнасцю) прызнаецца таксама, што ён даўні падпісчык «Звязды» і надзяляе газету шчырымі кампліментамі. Паэт -непрафесіянал спадзяецца, што яго «народныя вершы» падораць чытачам хоць бы адну ўсмешку і крышку разбавяць чорныя фарбы ў нашых настроях.

Што ж, дзякуем за дапамогу! Мы і надалей, у новым годзе, будзем рады рабіць газету разам з нашымі таленавітымі чытачамі.

ВАША ПІСЬМО АТРЫМАЛІ

# «Дарагая рэдакцыя! Дзе знайсці праўду?..»

**Закон аб друку, канешне, дае журналісту пэўныя правы, што датычыць пошты чытачоў. Можна адправіць пісьмо ў архіў, нават не паведамляючы аўтару, можна і паведаміць — так і так, прабачце, але... І ніхто да адказнасці нас не прыцягне — закон захаваны, яго, як бы сказаць, літара. Тым больш, што асноўная колькасць пісьмаў — гэта скаргі, скаргі ці мнагамудрыя разважанні на палітычныя тэмы.**

Скаргі пераважна дробязныя, на ўзроўні сель- ці райсавета, іх можна паспяхова вырашыць на месцы, як гаворыцца, не адыходзячы ад касы. А мы што можам? Даслаць на рэагаванне (большая частка), даць у друк (значна меншая частка), выехаць на месца з мэтай напісання крытычнай «бомбы», пры гэтым, праўда, без асаблівай надзеі на поспех. Усе ведаюць: рух папер у нашай Айчыне — справа даволі таямнічая і нелагічная.

І вось мне кладуць на стол чарговую скаргу, ад Зігмунда Пятровіча Навойчыка з вёскі Сасонкі Вілейскага раёна. На што скардзіцца грамадзянін Навойчык? А не можа купіць каляровы тэлевізар. Дык што: я работнік гандлю, дэпутат, саўмінавец? Я просты журналіст. Здаецца, у архіў? А давайце пачытаем.

«...Я адпрацаваў у калгасе 37 гадоў, жонка — 21 год (10 гадоў хварэла язвай страўніка). У 1950 годзе аддалі ў калгас (нагадаю, справа адбываецца ў Заходняй Беларусі. — **С. Ш.**) каня, колы, сані, саламарэзку, халодны будынак, плуг, барану і насенне на 1,5 гектара зямлі, якая была ў нас у гэты час. Мы цяпер на пенсіі. Я ветэран працы, занесены ў кнігу гонару — заслужаны калгаснік. Дзесяць гадоў хварэю на астэахандроз. Па меры сіл працуем у калгасе. Сёлета палолі і выбіралі буракі і лён калгасу, прама сказаць, з апошніх сіл. І вось ужо амаль два гады як мы падалі заяўку ў сельскі Савет на каляровы тэлевізар, хочацца паглядзець хоць перад смерцю, што робіцца ў нас і за мяжой, як гэта глядзяць людзі. Але вось адказ: Касцяневіцкі сальсавет трымаў гэтыя спісы паўтара года, потым перадаў у Куранецкі сельспажыўсаюз. Я туды — мне сказалі; твая чарга далёкая, будзеш чакаць не менш 2 гадоў».

Вось так яго парадавалі. Кінуўся ў Мінск, там сказалі: «Зараз няма, хутка будуць. Па 5 тысяч, дзед». І дзед зрабіў вывады: «Ці ж можна гэтакія грошы сабраць пенсіянерам, калі мы сабралі за гэтыя гады нейкія паўтары тысячы? На гэтую куплю прадалі калгасу апошнюю з сотак бульбу, 1.500 кг у верасні гэтага года, і грошы нам яшчэ не заплацілі, бо няма ў калгасе. Адпрацавалі шчыра, за што і адплачваюць нам, старым». Згодзен з Зігмундам Пятровічам: так трэба і разумець. Як гаворыцца, зрабі людзям дабро, яны табе адплацяць...

Так здарылася, што мы жывём як бы авансам. У чаканні нечага такога светлага. Нам усё казалі: вось-вось настане шчаслівы час, яшчэ крыху, ну, 5 — 10 гадоў, ну, яшчэ некалькі гадоў, ну, лічы, ужо заўтра. А ўсё не надыходзіла шчаслівае жыццё. Гэта мы — 30 —40-гадовыя, якія не так многа свайго асабістага жыцця выкінулі на будаўніцтва камунізму. А Зігмунд Пятровіч са сваёю жонкай? А мільёны такіх жа? У іх пазычалі: здароўе, грошы, свабоду, жыццё, нарэшце, — яны аддавалі. У камунізм верылі ці не — не ведаю (хутчэй верылі ў рэчы больш зямныя), але чакалі; некалі ж вяртаць будуць. Прынята ж так у сумленных людзей, узяў — аддай. Дык тое ў сумленных. А як жа ты дамовішся з цэлай дзяржавай, якая, кажуць, некалі навалася рабоча-сялянскай, а на справе аказалася ўдасканаленай імперыяй азіяцкага ўзору? У каго прасіць, што і як? Здароўе, блакітныя мары, каляровы тэлевізар?

Жылі-жылі, аказалася — не нажылі нічога, а як бы і вінаватымі некаму засталіся. Цэны ўводзяцца свабодныя, значыць, зноў мы напазычалі ў дзяржавы і лішкі грошай яна ў нас забірае праз цэны.

Самае страшнае — іншага выйсця сапраўды няма. Не прыдумалі. А ўсе гэтыя, прымаемыя парламентам з вялікай помпай пастановы «Аб мерах па сацыяльнай абароне працоўных...» — не больш чым спроба насцяліць саломкі. Трэба зразумець гэта і адразу адмовіцца ад ілюзій. Усё. Іх няма, час іх скончыўся. Павялічце пенсіі ў 2, нават 3 — 4 разы — нічога не зменіцца. Калі ўрад не мае смеласці растлумачыць Зігмунду Навойчыку, што каляровы тэлевізар ён ужо ніколі не купіць, то, што ж, зраблю гэта я. А больш, прабачце, нічым не дапамагу. І дэпутаты (сельсавета, райсавета) таксама не дапамогуць. І «дэпутат рэспублікі» Якубоўскі М. І. (так у тэксце пісьма. — С. Ш.) хутчэй за ўсё да іх далучыцца.

Таму што, паважаны Зігмунд Пятровіч, павінен вам далажыць: з 1 студзеня — кожны сам за сябе. А хто думае інакш, той ці загіне, ці стане Асобай, выб'ецца, як гаворыцца, у людзі. Так што ўсё даволі проста, натуральны адбор па Дарвіну.

Тым дзесяткам мільёнаў, якія ляжаць у зямлі — усё роўна. Хто запіша на сваё сумленне тых, каму не пашанцавала дажыць да гэткіх «крутых» часоў — не ведаю. Магу толькі меркаваць, у што ператворыцца жыццё жывых.

Рынак, бясспрэчна, рэч карысная, толькі не прыйшлося б да яго ісці па трупах. Галавой разумееш: праз цэны, дэфіцыты, страшэнную сацыяльную няроўнасць прайсці прыйдзецца так ці іначай. А старых — шкада. Тых, хто ў 30-я — задарма, у 40 — 50-я за «палачкі», сёння — за купоны...

**Сяргей ШАЎЦОЎ,**
**аглядальнік «Звязды».**




## НАВАСЕЛЛІ З «ГАРЧЫНКАЙ»

ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. (У. Пернікаў). Дзесяткі сем'яў перасяленцаў з Веткаўскага раёна перад Новым годам пераехалі ў вёску Холмеч Рэчыцкага раёна. Кватэры і катэджы для іх узвялі будаўнікі з Брэста, Пінска і Салігорска. Новае жыллё для чарнобыльцаў здадзена таксама ў гарадскім пасёлку Церахоўка, вёсках Насовічы, Жгунь, Усоха-Буда Добрушскага раёна і іншых населеных пунктах вобласці.

Аднак пашанцавала не ўсім жыхарам забруджаных радыенуклідамі раёнаў. Многія яшчэ застаюцца жыць у сваіх вёсках, якія падлягаюць абавязковаму адсяленню. Прычын тут некалькі.

Адна з іх наступная. З 5.463 запланаваных сёлета да здачы ў эксплуатацыю кватэр гатовых да засялення толькі каля 4.000. Адбіліся хібы ў матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні і арганізацыі працы будаўнікоў. Другая прычына ў тым, што ва ўведзеныя ў строй кватэры навасельцы не хочуць засяляцца зімой, бо гэта патрабуе многа дадатковых клопатаў і затрат.

Людзей тут зразумець можна. Але ж вельмі прыкра, што знаходзяцца зламыснікі, якія грэюць рукі на чужой бядзе. У незаселеных кватэрах яны выдзіраюць вокны, разбіраюць сантэхабсталяванне і нават падлогу.

## ПІЎКА ЗАХАЦЕЛАСЯ

**Увечары 3 студзеня нарад міліцыі затрымаў мінчаніна К., які пранік у піўбар «Свіслач».**

У спісе самых папулярных сярод мінскіх піўных бараў гэты, які ўтульна размясціўся на беразе ракі Свіслач, займае адзін з верхніх радкоў. Смачнае піва, выбар закусак, утульнасць, камфорт! Але ёсць у бара «Свіслач» і адзін мінус з пункту гледжання яго бяспекі — ён амаль увесь са шкла. І гэта непазбежна спакушае тых, каму вельмі хочацца піўка, а бар ужо зачынены.

Мінчанін К., каб наталіць паслянавагоднюю смагу, да таго ж пад градусам разбіў шкляныя дзверы і пранік у бар роўна ў дзесяць вечара. А праз некалькі мінут быў затрыманы нарадам міліцыі, што прыбыў па трывозе сігналізацыі. Затрыманаму прыйдзецца пацярпець з півам да лепшых, больш вольных часоў.

**«Агенцтва РІД».**



Мал. Яўгена БУЛАВЫ.

## У «РАСІІ» І ДОМА

**САЛІГОРСК (М. Лойка). Добра ведаюць у Салігорску мастакоў Ганну і Анатоля Смолічаў. Выстаўка іх работ пад назвай «Касмапалітычнае мастацтва» адкрыта ў мясцовым кінатэатры «Расія». Як жа пазнаёміцца з іх работамі салігорцам? Для гэтага трэба проста ўзяць і набраць нумар хатняга тэлефона мастакоў. Яны запросяць у зручны для вас час для агляду карцін у сваю майстэрню.**

## ЭКСПРЭС-ДАЙДЖЭСТ

Уяўляеце, якая была б сенсацыя, каб раптам цэлы калектыў калгаса не выйшаў на работу?

А між тым у прамысловым комплексе Магілёўскага раёна штодзённа з-за хвароб не прымалі ўдзел у грамадскай вытворчасці 414 чалавек. Лічы, цэлы калгас увесь мінулы год не выходзіў на работу.

**«Прыдняпроўская ніва».**

***

**Летась у верасні сям'я Шчарбаковых значна павялічылася. Адразу трох сыноў нарадзіла Вера.**

**Вядома, для такой вялікай сям'і трэба стварыць добрыя ўмовы жыцця. І таму ў калгасе імя Карла Маркса вырашылі купіць для Шчарбаковых дом, які пабудавалі рабочыя клічаўскага рамонтна-будаўнічага кааператыва. Кошт яго 82 тысячы рублёў.**

**«Сцяг Саветаў» (Клічаў).**

***

«Дуралогія» —уявіце, менавіта такую назву атрымаў шосты па ліку факультэт вячэрняга ліцэя ў Пінкавічах. Арыгінальна! Цяпер з многіх вуліц раёна дзеці збіраюцца сюды на заняткі падурэць з розумам. Гульні, забавы, розыгрышы, конкурсы спатрэбяцца ў жыцці...

**«Пинская неделя».**

***

**Хутка ў продажы з'явяцца мініяцюрныя тэлефонныя апараты «Бярэзіна». Першую партыю іх выпусціў Бабруйскі завод вагавымяральных прылад. Навінка складаецца з тэлефоннага апарата і размоўнай трубкі з кнопачным наборам нумароў. Дадаткова ўманціраваны ўзмацняльнік забяспечвае добрую чутнасць. Прычым нумар апошняга абанемента апарат захоўвае ў памяці — набор яго ўжо рабіць не трэба.**

**Першую партыю вырашана рэалізаваць сваім завадчанам як заахвочванне за хуткае асваенне навінкі. Сёлета вытворчасць апаратаў намечана давесці да дваццаці тысяч.**

**«Могилевские ведомости».**

***

З-за адсутнасці ў Магілёве ялавічыны і цяжкасцямі з яе атрыманнем з 12 студзеня 1919 г. усе савецкія народныя сталовыя перайшлі на харчаванне конскім мясам. З 14 студзеня ўсялякае адпусканне прадметаў першай неабходнасці для насельніцтва Магілёўскага, Чэрыкаўскага, Быхаўскага, Аршанскага, Клімавіцкага паветаў дазвалялася праводзіць толькі ў абмен на хлебныя прадукты.

24 студзеня губпрадкомам была забаронена выпечка белага хлеба і кандытарскіх вырабаў, а таксама ўстаноўлена прымусовая здача прыватнымі гандлярамі пшанічнай мукі ў гарадскі разлікова - размеркавальны аддзел.

**«Вестник Могилева».**

## БАЛОН НЕ ВЫТРЫМАЎ

**Выбухнуў газавы балон у аднаго з жыхароў Дзяржынска. У выніку адзін чалавек загінуў, чацвёра дастаўлены ў бальніцу ў цяжкім стане.**

## НАВІНЫ СУСЕДЗЯЎ

Акцыянернае таварыства «Эстонпаліва» паведаміла новыя цэны, якія дзейнічаюць у Эстоніі з 1 студзеня 1992 года. Літр бензіну А-76 каштуе 2 рублі 85 капеек, А-93 — 5.70, дызельнае паліва — да двух рублёў, літр звадкаванага газу — 3 рублі.

***

**З-за недахвату збожжавых Эстонія будзе вымушана пачаць іх закуп за рубяжом за валюту. 1—2 кілаграмы белага пшанічнага хлеба будзе каштаваць ад 10 да 22 рублёў. Запасаў мукі ў Таліне хопіць толькі да лютага.**

***

Фермеры Эстоніі маюць намер прадаваць талінскаму малочнаму камбінату малако па 5 тыс. рублёў за тону, што адпаведна выкліча рост цэн у рознічным гандлі: на малако — да 10 рублёў за літр, на масла — да 100 за кілаграм.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ




### БІ-БІ-СІ

**▲ У сталіцы Грузіі Тбілісі дзесяць чалавек у масках адкрылі агонь па натоўпу, які сабраўся на тбіліскім вакзале для падтрымкі прэзідэнта Звіяда Гамсахурдзіі. Прэзідэнт па-ранейшаму знаходзіцца ў памяшканні парламента, якое асаджаюць сілы апазіцыі. Людзі ў масках спачатку стралялі ў паветра, а потым адкрылі агонь па натоўпу. Па меншай меры адзін чалавек забіты. Адзін са страляючых быў схоплены натоўпам і збіты да смерці. Гэта здарылася неўзабаве пасля закліку прэзідэнта Гамсахурдзіі да насельніцтва пачаць усеагульную забастоўку і кампанію грамадзянскага непадпарадкавання заснаванаму ваеннаму савету і аб'яўленаму надзвычайнаму становішчу. Гамсахурдзія паўтарыў, што не збіраецца ісці ў адстаўку.**

▲ Парламент Чэчэнскай рэспублікі прыняў рашэнне адлікаць дэпутатаў-чэчэнцаў з расійскага парламента. У лік гэтых дэпутатаў уваходзіць і спікер парламента Расіі Руслан Хасбулатаў. Чэчэнскія ўлады абвясцілі незалежнасць ад Расійскай Федэрацыі яшчэ ў лістападзе.

**▲ Спецыяльны пасланнік Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Югаславіі Сайрус Вэнс вяртаецца ў Нью-Йорк пасля пасяховага раунда «чаўночнай» дыпламатыі, накіраванай на стварэнне ўмоў для размяшчэння міратворчых сіл у Харватыі. Пакідаючы Бялград, Вэнс заявіў, што сербы і харваты абавязаны справай даказаць сваю рашучасць захоўваць дасягнутыя пагадненні аб перамір'і. Па прыбыцці ў Нью-Йорк Вэнс выкладзе Генеральнаму сакратару ААН Бутрасу Галі ўмовы заключанага пятнаццатага па ліку перамір'я.**

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

▲ У суботу аднавіла работу сесія Вярхоўнага Савета Украіны. На парадку дня — абмеркаванне пагаднення аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Прэм'ер-міністр Украіны Вітольд Фокін прадставіць парламенту ўрадавую праграму.

**▲ Малдова прапанавала ўсім афіцэрам былой Савецкай Арміі, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, службу ў будучых Узброеных Сілах Малдовы. Гэтыя сілы будуць створаны ў бліжэйшыя некалькі месяцаў. Той, хто не пажадае служыць у іх, можа без перашкод вярнуцца дадому.**

▲ Міністры замежных спраў дзесяці краін Прыбалтыкі маюць намер сабрацца ў сакавіку ў Даніі з мэтай стварэння савета садзейнічання развіццю і супрацоўніцтву. Прадстаўнік міністэрства замежных спраў Даніі паведаміў, што адной з задач сустрэчы будзе стварэнне дэмакратычных інстытутаў у новых незалежных краінах Прыбалтыкі. У будучы балтыйскі саюз увойдуць Польшча, Расія, Латвія, Літва, Эстонія, Швецыя, Данія, Нарвегія, Фінляндыя і Германія.

**▲ Кітайская Народная Рэспубліка і Узбекістан устанавілі дыпламатычныя адносіны ў поўным аб'ёме.**

### РАДЫЁ ФРАНС ІНТЭРНАСЬЯНАЛЬ (RFI)

▲ Прэзідэнт Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Жак Эталі заклікаў аказаць дапамогу краінам, якія ўваходзяць у Садружнасць Незалежных Дзяржаў. Эталі папярэдзіў у сваім інтэрв'ю, што гэтыя краіны стаяць перад небяспекай сацыяльнага выбуху і цяпер маюць патрэбу ў дапамозе больш, чым калі б гэта ні было раней.

**▲ Палесцінская дэлегацыя заявіла, што яна часова ўстрымаецца ад удзелу ў чарговым раундзе перагавораў па блізкаўсходняму ўрэгуляванню ў Вашынгтоне. Гэта робіцца ў знак пратэсту супраць высылкі дзесяці палесцінскіх актывістаў з акупіраваных Ізраілем тэрыторый.**

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

▲ Міністр замежных спраў ФРГ Ганс-Дзітрых Геншэр заклікаў да правядзення надзвычайнай сесіі савета НАТО на ўзроўні міністраў замежных спраў для абмеркавання пытання аб удзеле ў гэтай арганізацыі незалежных дзяржаў былога Савецкага Саюза. Паводле паведамлення германскага міністэрства замежных спраў, Геншэр прапануе склікаць сесію ў лютым.

**▲ Газета «Франкфуртэр альгемайнэ» лічыць, што ў бядотах Усходняй Еўропы часткова вінаваты Захад. «Не ўсе бядоты ўсходняй часткі кантынента тлумачацца парокамі камунізму, — адзначае газета. — Ёсць там і іншая дрэнная спадчына, напрыклад, заходняя, дэмакратычная. Дэмакратычныя краіны Захаду пасля 1918 года ўладкавалі ўсходнюю частку Еўропы тым непрыстойным чынам, што справакавалі этнічныя распры ў многіх краінах і канфлікты з нацыянальнай афарбоўкай паміж асобнымі дзяржавамі». У якасці прыкладу «Франкфуртэр альгемайнэ» прыводзіць Югаславію.**

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

▲ Воінскія фарміраванні, размешчаныя на тэрыторыі Украіны, пачынаюць даваць прысягу на вернасць рэспубліцы, што ставіць іх у падпарадкаванне мясцоваму ўраду. Гэты працэс закончыцца праз два тыдні. Ён датычыцца ўсіх войск, за выключэннем тых, якія прызначаны для абслугоўвання ядзерных сіл. Прадстаўнік Міністэрства абароны Украіны заявіў, што тыя фарміраванні, якія не пажадаюць прыняць прысягу на вернасць суверэннай дзяржаве, будуць пераведзены ў іншыя рэгіёны былога Саюза ССР.

**▲ Як паведамілі ў Міністэрстве замежных спраў Расіі, ужо 105 краін свету прызналі незалежную і суверэнную Расійскую Федэрацыю.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

## З ТЭЛЕТАЙПА — У НУМАР

Усе члены Садружнасці Незалежных Дзяржаў павінны быць прадстаўлены ў ОБСЕ і Савеце Паўночнаатлантычнага супрацоўніцтва, лічыць міністр замежных спраў ФРГ Ганс-Дзітрых Геншэр. У артыкуле для «Мітэльдойчэ цайтунг», распаўсюджаным тут МЗС ФРГ, ён выказаў думку, што Еўропу нельга больш разглядаць толькі як геаграфічнае паняцце. Гэта адзіная прастора ад Ванкувера да Уладзівастока, што вызначаецца адзінымі мэтамі, сумеснымі каштоўнасцямі і інтарэсамі ўсіх размешчаных у ёй дзяржаў. У гэтай сувязі, падкрэсліў міністр, усе рэспублікі былога СССР, прызнаныя ў якасці незалежных дзяржаў, неабходна разглядаць як партнёраў па бяспецы і прыняць іх у бліжэйшы час у ОБСЕ і Савет Паўночнаатлантычнага супрацоўніцтва.

***

Адміністрацыя ЗША выступіла ў падтрымку ўступлення суверэнных рэспублік — членаў Садружнасці Незалежных Дзяржаў у Міжнародны валютны фонд (МВФ) і Сусветны банк. Як заявіў сёння міністр фінансаў ЗША Нікалас Брэйдзі, адміністрацыя ЗША выступае за прадастаўленне поўнага членства ў гэтых міжнародных фінансава-эканамічных арганізацыях Расіі, Украіне, Беларусі, Казахстану, Кыргыстану і Арменіі, з якімі Злучаныя Штаты ўстанаўліваюць цяпер поўныя дыпламатычныя адносіны. Н. Брэйдзі паведаміў, што адміністрацыя будзе гатова падтрымаць уступленне ў МВФ і Сусветны банк іншых шасці былых савецкіх рэспублік — Азербайджана, Туркменістана, Узбекістана, Таджыкістана, Малдовы і Грузіі — як толькі ЗША палічаць магчымым устанавіць дыпламатычныя адносіны і з імі.

***

Кіраўнікі нацыянальных алімпійскіх камітэтаў Арменіі, Беларусі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Расіі і Украіны, прадстаўнік Алімпійскага камітэта былога СССР вырашылі стварыць на пераходны перыяд, да прызнання Міжнародным алімпійскім камітэтам нацыянальных камітэтаў незалежных дзяржаў, грамадскі орган — Савет прэзідэнтаў нацыянальных алімпійскіх камітэтаў. Пра гэта стала вядома 3 снежня пасля экстраннай сустрэчы ў Маскве.

Савет прэзідэнтаў закліканы садзейнічаць хутчэйшаму прызнанню МАКам нацыянальных алімпійскіх камітэтаў незалежных дзяржаў, каардынаваць работу па падрыхтоўцы і ўдзелу ў Алімпійскіх гульнях 1992 года.

Старшынёй Савета прэзідэнтаў выбраны віцэ-прэзідэнт МАК Віталь Смірноў.

Савет пачне ажыццяўленне сваіх паўнамоцтваў пасля прызнання яго прадстаўнічых функцый Міжнародным алімпійскім камітэтам.

# Паўгадзіны з Жэлю Жэлевым

Роўна ў дзесяць гадзін, як дамоўлена, мы былі ў вестыбюлі ўрадавага будынка. Мы — гэта кіраўнік беларускай дэлегацыі Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, патрыяршы экзарх усяя Беларусі Філарэт, сакратар Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова, намеснік старшыні Камітэта па знешніх эканамічных сувязях Генадзь Наркевіч і аўтар гэтых радкоў. З балгарскага боку— Захары Захарыеў, старшыня федэрацыі «Балгарыя—СССР», дацэнт Цветан Кардашаў — вядомы ў краіне эколаг.

У вестыбюлі нас ужо чакала высокая стройная жанчына, вельмі падобная на спявачку Эдзіту П'еху. Пакуль мы распраналіся і аглядалі сябе ў вялікім люстэрку, жанчына нешта ціха сказала ў партатыўны радыётэлефон з невялічкай антэнай і запрасіла нас на другі паверх.

Пакой, куды мы зайшлі, быў самы звычайны. Доўгі стол па цэнтры, крэслы. Не паспелі мы сесці, як ля нашага кіраўніка з'явіліся жанчына з мікрафонам і хлопец з партатыўнай камерай — балгарскае тэлебачанне. Некалькі пытанняў, столькі ж адказаў — і яны адышлі. Увайшоў доктар Жэлю Жэлеў з памочнікамі.

Кожнага з нас прадставіў прэзідэнту Захары Захарыеў. Гаворачы пра мяне, сказаў, што пішу кнігу-эсэ пра Балгарыю і што хацеў бы ўзяць інтэрв'ю для беларускай газеты «Звязда». Пасля такой інфармацыі гаспадар пачаў больш уважліва глядзець у мой бок. Гаворка пайшла вольна, без напружання.

Наш кіраўнік зрабіў невялічкі ўступ, пасля чаго пайшлі пытанні і адказы.

Прэзідэнт пацікавіўся лёсам Чарнобыльскай АЭС і іншых атамных станцый. Сказаў, што ў іх таксама разыходжанні думак наконт сваёй АЭС. І дадаў, што праблемы гэтыя ў іх з намі агульныя.

Гаворка не магла не збочыць на палітычныя плыні, на вятры і туманы ў палітыцы.

— Я вельмі задаволены, што ўсталяваліся добрыя прамыя адносіны Балгарыі з Беларуссю. Нядаўна мы падпісалі з вашым урадам пагадненні.

Але, калі заўважыць у дужках, тыя пагадненні яшчэ мала «працуюць». Пры сустрэчах балгарскія дзелавыя людзі скардзіліся, што наш бок неяк марудна ўсё робіць. Цвёрдай валюты ні ў іх, ні ў нас няма, а бартэр буксуе. Балгарам жа ёсць што прапанаваць нам, бачыў на ўласныя вочы. Яны багатыя на экалагічна чыстыя прадукты харчавання, асабліва на кансервы з садавіны і агародніны, розныя сокі. Пра гэта трэба пісаць асобна.

Гаспадар зазначыў:

— Вельмі важна захаваць і развіваць добрыя адносіны паміж славянскімі народамі, як дарэчы, і з іншымі рэспублікамі былога СССР.

За тыдзень у Балгарыі адбылося шмат розных размоў з жыхарамі краіны. Часта пытаўся пра іх адносіны да прэзідэнта, тым больш, што ў хуткім часе адбудуцца ўсенародныя выбары на гэту пасаду. Большасць прыхільна ставіліся да яго. Але былі і такія, хто не згаджаўся з рэзкай пераменай курсу па асобных напрамках. Не маглі зразумець маўчання першай асобы краіны, калі адбываліся антырускія, антыславянскія выступленні і дзеянні. А нацыянальныя і рэлігійныя пытанні паўставалі і могуць паўставаць у Балгарыі вельмі востра — шматвяковае асманскае ярмо не прайшло бясследна.

І гэта тэма не магла не ўзнікнуць у размове. Прэзідэнт сур'ёзна, з падкрэсленай інтанацыяй гаварыў пра экспансію мусульманства, іслама. Магчыма, таму, што перад ім сядзеў Мітрапаліт. Ён адзначыў, што і ў нас адраджаецца мусульманскі фундаменталізм.

Варта падкрэсліць, што доктар Жэлю Жэлеў добра гаворыць па-руску і праблем перакладу не ўзнікала.

Калі афіцыяльная частка скончылася і ўсе ўсталі, я зазначыў, што хацелася б больш падрабязна пагаварыць з ім, каб у Беларусі бліжэй пазнаёміліся з лідэрам Балгарыі. Ён сказаў, што цяпер часу няма і можна будзе прыслаць яму пытанні, на якія ён адкажа. Тады я папрасіў яго напісаць колькі слоў, якія мы ўзновім на старонках «Звязды». Ён ахвотна згадзіўся і напісаў: «Газеце «Звязда» з пажаданнямі ніколі не гаснуць! 28.11.91». І моцна, з добрай усмешкай паціснуў руку.

**Леў КАРАІЧАЎ.**

*На в. „Звезда" с пожелание никога да не залязва!*
*28.11.91*

ЗАГАДКІ ЭКАНОМІКІ

# І вывозяць «турысты» апошнія крыхі

**«Калі ў Савецкім Саюзе не наблізяць цэны да сусветных, рэшткі тавараў, як скразняком, вынесе з краіны»,— гэту перасцярогу я пачуў ад былога намесніка міністра фінансаў Польшчы Марэка Дамброўскага паўтара года назад.**

У справядлівасці яго слоў я пераконваюся ўсякі раз, як трапляю на польскія базары, дзе бойка гандлюе шматтысячнае вандроўнае племя савецкіх турыстаў-карабейнікаў. Цяжка паверыць, што ў нашай краіне пустыя магазіны. Карабейнікі прадаюць ікру, балык, кансервы чырвонай рыбы, вэнджаную каўбасу, кансерваваную ялавічыну, растваральную каву, з прамтавараў — каляровыя тэлевізары, адзенне, абутак, электрапрыборы, аўтамабільныя запчасткі, механічны інструмент, фотаапараты, парфуму, лякарствы і масу іншых рэчаў, якіх не бачаць пакупнікі ні Масквы, ні Пецярбурга. Ёсць рэчы, якія шмат трацяць побач з яркімі заходнімі вырабамі, але і на іх знаходзяцца пакупнікі.

А купляюць савецкія тавары таму, што яны каштуюць у некалькі разоў танней за вырабы польскай ці заходняй вытворчасці. Польскія жаночыя зімовыя боты каштуюць 500 тысяч злотых, у савецкіх карабейнікаў —250 тысяч. Швейныя машыны: польскія —2,2 мільёна злотых, савецкая — 1,3 мільёна, сыравэнджаная каўбаса: польская —60 тысяч злотых, савецкая —25 тысяч. Цяпер прыкіньце, што гэта ў рублях. Хоць польскія банкі ўжо не праводзяць аперацый з рублямі, у мяняльных канторах гэтым займаюцца, і за 150 злотых даюць у апошні час адзін рубель.

Але не толькі савецкія карабейнікі перасякаюць граніцу з мэтай нажывы, польскія — таксама. Едуць, напрыклад, у Брэст, набіваюць машыны ялавічынай, якая каштуе на тутэйшым рынку 70 рублёў за кілаграм. У Польшчы гэты кілаграм — 200 рублёў. Тое самае з іншымі прадуктамі, бензінам, прадметамі хатняга ўжытку. Навошта траціць злотыя, якія ходзяць нароўні з доларам?

У савецкага карабейніка свой разлік. Ён мяняе злотыя на долары і за жаночыя боты вязе дадому 22 долары, за швейную машыну — 113 долараў, за кілаграм каўбасы 2,2 долара. Далей чытач сам зарыентуецца па бягучаму курсу долара ў Маскве ці Кіеве, які барыш атрымае карабейнік. Дарэчы, ён можа везці не долары, а асабліва дэфіцытныя ў сябе тавары, якія дадуць яшчэ большы прыбытак.

А цяпер пра маштабы. На працягу мінулага года Польшчу наведвала каля сямі мільёнаў савецкіх турыстаў-карабейнікаў. Вялікая колькасць палякаў пабывала ў нашых рэспубліках і таксама вярталася не з пустымі рукамі. А ёсць яшчэ Чэхаславакія, Венгрыя, Фінляндыя і іншыя краіны, куды праклалі гандлёвыя шляхі нашы людзі, што называюць сябе турыстамі. Вось вам і скразняк, што выносіць дэфіцытны савецкі тавар. Напэўна, не многія ўзяліся б за «турыцкі» бізнес, каб не мелі доступу на таварныя базы і ў падсобкі магазінаў, каб не падключыліся да ценявых гандлёвых абаротаў. Яны пагаршаюць крымінагенную абстаноўку ў гандлі. Ці да клопатаў там пра радавога пакупніка, калі спрытны «турыст» гатоў даць «на лапу» за тавар і дапамагчы адмыць і ператварыць у цвёрдую валюту брудныя грошы?

Усё пытанне — у вялікай розніцы цэн. Звернемся да меркавання таго ж М. Дамброўскага, які, дарэчы, быў правай рукой у Л. Бальцаровіча пры распрацоўцы польскай эканамічнай рэформы. «Унутраная структура цэн у дзяржавах планавай эканомікі,— гаворыць ён,— рэзка адрозніваецца ад структуры, што склалася ў свеце. І калі расшыраюцца магчымасці для турызму і абмену грошай на цвёрдую валюту, не стрымаць некантралюемы пераход тавараў праз граніцу. Вывозіцца ўсё, што ў краіне каштуе танна, і ўвозіцца тое, што можна выгадна прадаць. Таму структуру цэн трэба выраўноўваць пад сусветную».

У Польшчы гэты працэс ідзе поўным ходам ужо два гады. За гэты час цэны рэзка ўзняліся і пачынаюць набліжацца да сусветных. Адначасова растуць зарплата і даходы насельніцтва, хоць і з адставаннем ад цэн. Сярэдняя зарплата цяпер набліжаецца да 200 долараў у месяц, і адпаведна ёй цэны. Тут, як і ў іншых краінах Захаду, іншы маштаб зарплаты і цэн. І нам, паводле перакананння польскіх эканамістаў, нічога не застаецца, як узнімаць большасць цэн. Калі яны наблізяцца да ўзроўню ў суседніх краінах, турысты страцяць камерцыйны інтарэс вывозіць туды тое, чаго самім не хапае. Яшчэ два гады назад польскія турысты вывозілі на Захад свае параўнаўча танныя тавары. Цяпер гэта ўжо не акупляецца, у самой краіне магазіны забіты таварамі. Зразумела, што гэты працэс павінен ісці ў пэўных прапорцыях з ростам заработнай платы, пенсій, стыпендый. Характар жа прапорцый будзе залежаць ад умення працаваць, арганізаваць вытворчасць, гаспадарчыя сувязі і іншых умоў.

**Ігар ГАЛКІН.**

## З бюджэту— прадпрыемствам

Фінансавыя няўдачы «саюзнага мінулага» больш чым паўсотні з пяцісот прадпрыемстваў, якія перайшлі ў чацвёртым квартале мінулага года пад юрысдыкцыю Беларусі, узяўся кампенсаваць Савет Міністраў рэспублікі. Аб'яднанням, заводам і фабрыкам былога саюзнага падпарадкавання, якія аказаліся к канцу года са значнымі «дзіркамі» ў бюджэце, накіраваны сёння бязвыплатна сродкі і выдадзены пазыкі на суму, якая перавышае 600 мільёнаў рублёў. Пры гэтым прамое выдзяленне грошай склала 400 мільёнаў.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве фінансаў Рэспублікі Беларусь, каля шасцідзесяці арганізацый, што засталіся без датацый і апекі цэнтра, сярод якіх сталічнае НВА вылічальнай тэхнікі, Гомельскі завод электратэхнічнага аснашчэння, Мінскі трактарны завод, вытворчыя аб'яднанні «Гарызонт» і «Калібр», Брэсцкі радыётэхнічны завод і іншыя, звярнуліся да ўрада з просьбай аказаць падтрымку ў цяжкай сітуацыі. Для пакрыцця запазычанасці, паводле падлікаў саміх вытворцаў, запатрабавалася звыш мільярда рублёў.

Неабходная фінансавая дапамога выдзелена.

У той жа час кіраўнікам прадпрыемстваў, якія атрымалі цяпер фінансавыя асігнаванні з рэспубліканскага бюджэту, было адкрыта заяўлена, што прэцэдэнт не паўторыцца ў 1992 годзе. Рэнтабельнасць у будучым яны абавязаны забяспечыць за кошт умела наладжанай работы і цэнавай палітыкі.

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ —ПРАВЕРЦЕ

# У новым годзе Малпа будзе цешыцца жыццём

**По публікацыях штотыднёвіка непальскага гараскопа мы ведаем, што ён карыстаецца вялікай папулярнасцю. Учора ў рэдакцыю паступілі прадказанні японскіх астролагаў на новы 1992 год. Які ж ён будзе?**

Астролаг К. Мацумура прадказвае канец «эпохі вялікіх дзяржаў». У палітычнае жыццё, сцвярджае ён, усё больш актыўна будуць уключацца малыя дзяржавы, граніцы паміж імі будуць сцірацца. Мадэмуазель Ай (дарэчы, мужчына — у астролагаў распаўсюджаны французскія псеўданімы), спасылаючыся на размяшчэнне Сонца і Марса, гаворыць пра ўзмацненне ўзброеных сіл у сусветным маштабе, зварот японцаў да традыцыйнай рэлігіі — сінтаізму. Знаўца астраноміі старажытных прадказвае няўрод, а другі яго калега намякае на магчымасць паводак і цунамі. Напэўна, у новым годзе не пазбегнуць сур'ёзных сацыяльных выбухаў, анархіі і хаосу. Аднак не трэба забываць, што на змену ім прыйдуць размеранасць і ўраўнаважанасць. У малпы мітуслівы характар, цяжка сказаць, што ёй прыйдзе ў галаву ў тую ці іншую мінуту. Таму ў новым годзе часта не будзе месца разумнаму сэнсу. Затое тым, у каго галава на плячах, а сэрца адкрыта для ўсяго новага, будзе прадастаўлена магчымасць рэалізаваць сябе.

Паспрабуем цяпер, не пакрыўдзіўшы нікога, разабрацца са знакамі задыяка. Калі верыць прадказанням, апублікаваным у студзеньскім нумары часопіса «УДДУ», людзям, якія нарадзіліся ў год ПАЦУКА, будзе ўсміхацца лёс, асабліва добра пойдуць справы к вясне. Пацуку неабходна клапаціцца аб сваіх нырках, не забываць, што для яго шчаслівы колер—чорны. Яму не пашкодзіць заняцца вывучэннем якога-небудзь новага прадмета — год для гэтага будзе асабліва спрыяльны. У Пацука расшырыцца кола знаёмстваў, а чарговая сустрэча з прадстаўніком іншага полу прынясе шчасце.

У суседа Пацука па ўсходняму календару — БЫКА — асаблівых зрухаў не будзе. У справах яму трэба рухацца паступова, крок за крокам. Ёсць магчымасці для накаплення грошай. Колер Быка — гарчычны, яму трэба сачыць за сваёй селязёнкай. У любоўных справах у Быка не будзе рэзкіх узлётаў і падзенняў. Рэкамендуецца ўжываць больш агародніны.

У ТЫГРА, шчаслівы колер для якога колер лясной зеляніны, таксама асаблівых перамен не будзе, хоць можа даць сябе знаць печань. Перш чым прымаць якое-небудзь рашэнне, ён павінен яго старанна абдумаць. Допускаецца свабоднае каханне, але, з другога боку, даволі вялікая верагоднасць разводу. Тыгр, відавочна, з нецярплівасцю будзе чакаць грыбной пары — грыбы павінны прынесці шчасце.

ЗАЙЦУ хутчэй за ўсё давядзецца засесці за падручнікі, паколькі для яго наступны год будзе не толькі годам павышэння інтэлектуальнага ўзроўню ў цэлым, але і даволі спрыяльным для вывучэння замежных моў. У адносінах з людзьмі ўсё гладка, спакойна будзе працякаць любоў з партнёрам, малодшым па ўзросту.

Для ДРАКОНА найлепшы колер карычневы. Яго можна парадаваць: жыццё абяцае быць гладкім і плаўным, з пяшчотай будуць ставіцца да яго акружаючыя, успыхне пачуццё кахання, што можа прывесці да шлюбу. Шчасце прынясе агародніна.

Энергічны і актыўны будзе год для ЗМЯІ. Новыя здольнасці, якія яна ў сабе адкрые, здзівяць знаёмых. У той жа час яе чакае каханне без узаемнасці. Шчаслівы колер — жоўта-чырвоны. Улетку неабходна захоўваць асцярожнасць, сачыць за сабой і наогул больш спаць і берагчы сэрца.

Не будзе рэзкіх перамен у лёсе КАНЯ. Галоўны прадмет увагі — вочы. Колер Каня — чырвоны. Яго будзе акружаць спакой. Будуць новыя сустрэчы і новыя расставанні.

Шчасце прыйдзе да РЫБЫ. З'явіцца магчымасць звязаць сябе шлюбнымі вузамі з партнёрам.

Шчасце АВЕЧКІ ў новым годзе ў будзённым жыцці. Справы павінны рабіцца спакойна, спешка нічога добрага не абяцае. Партнёрам яе будзе чалавек з узважанымі эмоцыямі. Рэкамендуецца берагчы горла і часцей ужываць малочныя прадукты. Колер Авечкі — аранжавы.

Для «гаспадыні» года — МАЛПЫ — настае час цешыцца жыццём. Яе дружалюбныя пачуцці перарастуць у каханне. Малпа будзе імкнуцца да шлюбу, але спяшацца з ім не варта. Трэба сачыць за сваім здароўем і прымаць рашэнне па прынцыпу «сем разоў адмерай, адзін адрэж». Трэба больш піць чаю. Шчаслівы колер — сярэбраны.

КУРЫЦУ чакаюць непаразуменні ў жыцці. Для таго, каб яны вырашыліся, неабходна нейкі час пачакаць. Варта падумаць пра тое, як узбагаціць сваё жыццё. Курыца павінна асцерагацца стаматыту і не спрачацца з сябрамі. Для яе шчаслівы — белы колер.

САБАКУ год абяцае дабрабыт, удачу ў каханні і грошах. Апошніх будзе шмат, але скнарнічаць не трэба — траціце іх, з'явяцца новыя. Напэўна, таму шчаслівы колер — жоўты. Сабаку лепш быць сярод людзей, а не сядзець дома. У яго будзе шмат любоўных прыгод, але пра шлюб думаць не варта. Неабходна піць мінеральную ваду.

Для КАБАНА шчаслівы колер — шэры. Год для яго будзе спакойны і роўны. Парады кабану: сачыць за сваёй прычоскай, не пераахалоджвацца, берагчы косці і суставы. Кабану варта імкнуцца да дасягнення доўгатэрміновых мэт.

**Аляксандр ЗОРЫН.**

